# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 чэрвеня 2016 года №23 (1101)





## Інтэрв'ю з "Міс Маладзечна 2016" Лізаветай Данілавай

старонка 6

## Сацыяльная служба: хачу, каб мяне абслугоўвала толькі Лідзія Іванаўна

старонка 21

## "Гэта здзек з тых, хто не можа адказаць"

Апаганілі мемарыял на месцы знішчэння 800 яўрэяў

старонка 3





Эколагі знаходзяць недахопы на будаўніцтве лініі электраперадач "Астравец-Адуцішкіс - Паставы", якую ўзводзяць кітайскія падрадчыкі для Беларускай АЭС.

На фота: Кітайскі повар у прысутнасці камісіі кідае адходы ў яму.

# ЛЭП для АЭС

- ☒ Кучы смецця
- ☒ Незакручаныя гайкі
- ☒ Высечаны лес

старонка 2

Фота забяспечанае Ігарам ПАСТУХОВЫМ.

ТЭМА НУМАРА

# Кучы смецця, высечаны лес і незакручаныя гайкі

## Такія недахопы знаходзяць эколагі на будаўніцтве ЛЭП для АЭС

АСТРАВЕЦ

**Лінію электраперадач "Астравец-Адуцішкіс (Гайдуцішкі)-Паставы" для Беларускай АЭС будуюць кітайскія падрадчыкі. Фінансуюць работы за кошт крэдыту кітайскага банка.**

Лінія электраперадач праходзіць па тэрыторыі Астравецкага і Пастаўскага раёнаў. Рэгіянальны каардынатар грамадскай экалагічнай інспекцыі "Зялёны дазор" **Ігар Пастухоў** з групай эколагаў ад лета 2015 года неаднаразова звярталі ўвагу дзяржаўных органаў на непарадкі пры будаўніцтве ЛЭП.

Гэта і высечаны лес, які застаецца гніць:

– Знявечылі пейзажы, а сотні кубоў лесу згнаілі. І цяпер некалі дзелавая драўніна годная толькі што на дровы, – кажа ён.

У Астравецкім і асабліва Пастаўскім раёнах знаходзілі кучы смецця, якія пакінулі кітайскія працаўнікі.

– Яны звальваюць кучы смецця ў нашы лясы, частку яго закопваюць. У палявых кітайскіх лагерах поўная антысанітарыя, – непакоіцца Ігар.

**– Ці спрабавалі з прадстаўнікамі кітайцаў размаўляць, указваць ім на гэтыя недахопы?**

– Размаўлялі. Некаторыя разумеюць рускую мову, але адразу яе забываюць, калі ім указваюць на парушэнні. Гэта не толькі мае назіранні, але і інспекцыі, і прадстаўнікоў лясніцтва.

**– Чаму, лічыце, так шмат парушэнняў?**

– З-за слабага кантролю за іх працай і асабістага невуцтва, непавагі да чужой краіны, у якую іх запрасілі на работу. Падчас адной з інспекцыйных праверак кітайскі повар нават у прысутнасці камісіі скідваў адходы ў толькі што выкапаную яму. Хоць абавязаны збіраць смецце у кантэйнеры і вывозіць. Але навошта яму? Беларуская прырода сцерпіць.

### Што адказваюць эколагам

Па парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Ігар Пастухоў і грамадскае аб'яднанне "Экадом" звярталіся ў "Гроднаэнерга" і Пастаўскі лясгас. Атрымлівалі адказы, што факты пацвердзіліся. "Гроднаэнерга" абавязала кітайскае таварыства NCPE прыбраць звалкі смецця ў лясах і выканаць ачыстку лесу.

"Гроднаэнерга" адзначае, што ні адзін аб'ект не будзе ўведзены ў эксплуатацыю, а адпаведна не будзе праведзеная аплата за выкананыя работы пры наяўнасці на аб'ектах смецця, бытавых адходаў, рэштак будаўнічых адходаў і прыстасаванняў, пакінутых падраднымі арганізацыямі", – гаворыцца ў адказе.

– Смецце пачалі прыбіраць, але як. Яго проста закопваюць: нядаўна ў гэтым пераканаўся. Падазраю, што яго хаваюць глыбока ў лесе. Але гэта трэба праверыць, – дзеліцца Ігар Пастухоў.

### Ці патрэбная гэтая ЛЭП

Па меркаванні Ігара Пастухова, застаецца адкрытым пытанне захавання тэхнічных умоў пры пракладцы ЛЭП:

– Восенню 2015 года выявілі, што гайкі на апорах ЛЭП спакойна адкручваюцца нават не ключом – рукой. На сходзе ў Белэнерга нам растлумачылі, што такія тэхумовы. Апоры павінны ўстаяцца на фундаментальных блоках месяц-два, а ўжо потым гайкі дазакручваюць, заварваюць разьбу і нацягваюць правады.

Аднак калі вясной лінія ЛЭП раптам на некаторых участках, як Пяшкоўскі, пачала тануць у адталым беларускім балоце, тэхумовы аказаліся іншымі. Лінію з ужо нацягнутымі правадамі дэмантавалі, фундаментальныя блокі вырвалі і замянілі на палявыя. А гайкі заварылі адразу як нацягнулі правады – не чакалі ўсаджвання апор!

Яшчэ адно пытанне – мэтазгоднасць гэтай лініі электраперадач.

– Літва, ля мяжы з якой будуюцца гэтая ЛЭП, адмовілася купляць электрычнасць з нашай АЭС. Польшча таксама адмовілася ад беларускай электраэнергіі. То навошта гэтая ЛЭП? – даводзіць Ігар Пастухоў. – Цяпер кажуць, што электраэнергія спатрэбіцца для развіцця прамысловасці ў Пастаўскім раёне. Напрыклад, узгадвалі пра планы наконт алюмінеплавільнага завода. Уяўляеце сабе завод з дымлівымі трубамі ў азёрным краі? Дастане ўсіх, і Нарач таксама. Дзеля чаго гэтая АЭС і гэтая ЛЭП з праблемамі? Ці варта чакаць шчаслівага атамнага будучага, калі яна запусціцца?

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Ігара ПАСТУХОВА.

Апоры ЛЭП ставяць па-новаму. Красавік 2016.

## Каментар у тэму

Выхад Літвы з БРЭЛЛ (энергакола, якое аб'ядноўвае энергасістэмы Беларусі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы) не паўплывае на працу Беларускай АЭС, паведаміў 31 мая ў Маскве намеснік міністра энергетыкі Беларусі **Міхаіл Міхадзюк.**

"Літва праінфармавала беларускі бок, што ў яе планах у перспектыве адлучэнне ад БРЭЛЛ", – сказаў Міхаіл Міхадзюк, удакладніўшы, што на работу Беларускай АЭС гэта не акажа ўплыву.

"Наша станцыя будзе працаваць у базавай частцы графіка электрычных нагрузак для беларускага спажыўца", – падкрэсліў ён.

Будаўніцтва ліній выдачы магутнасці з БелАЭС вядзе "пад ключ" кітайская NCPE, кошт праекта складае 340 мільёнаў долараў, фінансаванне на 95% ажыццяўляецца за кошт крэдыту "Эксімбанка" Кітая. Усяго трэба будзе пабудаваць больш за тысячу кіламетраў ліній электраперадач.

Паводле БЕЛТА і sputnik.by.



## Настасся Роўда: "Ужо сумую"

**Гэта не развітанне, а падзяка за чатыры гады ў "РГ", пад якімі гэтым лістом падводжу рысу.**

Мы з "Рэгіянальнай газетай" нарадзіліся амаль адначасова, з розніцай у некалькі дзён, таму дні народзінаў адзначалі разам. Разам перажывалі няўдачы, вучыліся, радаваліся поспехам і дасягалі сваіх мэтаў.

За чатыры гады выраслі і я, і газета.

Мне пашанцавала апынуцца ў моцнай камандзе і мець магчымасць вучыцца ў сваіх калег. Не слухаць, а чуць. Не глядзець, а бачыць. Зазіраць углыб, аналізаваць, думаць, разумець і рабіць высновы. Усміхацца, нягледзячы ні на што, і жартаваць, нават калі зусім не смешна.

За гэты час "РГ" расквітнела і стала сапраўднай прыгажуняй. Мы паспелі абнавіць сайт, змяніць дызайн газеты, пасябраваць з тысячамі новых чытачоў, адсвяткаваць дваццаціргоддзе, стаць "Найлепшай рэгіянальнай газетай 2015 года". І гэта – толькі пачатак.

Я прыйшла ў рэдакцыю адразу пасля школы, зялёная. Многія мяне не разумелі і адгаворвалі. Маўляў, залатых гадоў сябе пазбаўляю. Тады я не ўяўляла, што "залатыя гады" чакаюць мяне ў "РГ".

Дзякую сваім калегам, якія за гэты час сталі ці не сям'ёй. Чытачам, дзеля якіх я працую. Асобам, пра якіх я пісала, бо кожны з іх штосьці ўва мне пакінуў.

Час ляціць няспынна. Час ісці далей. Цяпер і я з карэспандэнткі "РГ" перватваруся ў яе чытача. Удзячнага чытача, улюбёнага ў газету і мову.

Ужо сумую.

Настасся РОЎДА.

# “Гэта здзек з тых, хто не можа адказаць”

## Ля Івянца апаганілі мемарыял на месцы знішчэння 800 яўрэяў

**ВАЛОЖЫН**

Сюды, ва ўрочышча Пішчугі, чэрвеньскай раніцай 1942 года прыгналі яўрэяў з івянецкага гета. Паставілі ля вялікай і глыбокай ямы і расстрэльвалі з кулямёта – 600 старых і 200 дзяцей. Мноства ахвяраў скінулі ў яму яшчэ жывымі і засыпалі вапнай. Маленькім дзецям паліцаі разбівалі галовы ці проста кідалі ў яму жывымі...

А праз 74 гады на агароджы мемарыяла намалявалі свастыку, адламалі і кінулі пліту помніка.

Паведамленні пра вандалізм адразу з’явіліся ў сацсетках – напрыклад, напісаў пра гэта мінчанін **Арцём Карнейчык.** Арцём дапамагаў у Івянцы і вырашыў наведаць мемарыял, які знаходзіўся пры дарозе.

– Убачыў, што нейкія нелюдзі апаганілі яго. Стала вельмі сорамна, бо наўрад ці гэта немцы прыехалі і зрабілі – у іх такія месцы дагледжаныя і ахоўваюцца. Быў шакаваны, калі ўбачыў гэтае злачынства. Адразу з’явілася жаданне звярнуцца да людзей, – дзеліцца ён.

Арцём кажа, што для яго тэма вайны – блізкая:

– Мая бабуля была медыкам, а прабабка – сувязной партызанскага атрада. Я скончыў гістарычны факультэт БДПУ. Калі вывучаеш мемуары і ўспаміны сведкаў, пачынаеш разумець, наколькі гэта страшна – ісці амаль на стопрацэнтную смерць.

Гэты ўчынак для мяне – большае злачынства, чым забойства салдат у баі, бо гэта здзек з тых, хто не можа адказаць.



Фота забяспечана Упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці.

Вандалы пашкодзілі помнік.

> **Тут жа апаганены мемарыял дзеткам, якія ніколі не стануць дарослымі, старым і простым людзям, якія былі знішчаныя без віны, толькі за іх нацыянальную прыналежнасць.**

### За здзек з брацкай магілы ўзбудзілі крымінальную справу

У міліцыю пра здарэнне паведамілі 21 мая. Валожынскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па факце здзеку з брацкай магілы.

Следча-аператыўная група правяла пільны агляд месца здарэння, выявілі і канфіскавалі рэчавыя доказы.

Шукаюць сведкаў, прызначылі экспертныя даследаванні. Адпрацоўваюць асоб, датычных да здзяйснення супрацьпраўных дзей, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог.**

– Ад часоў Вялікага Княства Літоўскага ў нашай краіне заўсёды мірна жылі прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і рэлігійных поглядаў. Таму той, хто гэта зрабіў, не беларус – бо ён страціў сваю годнасць, – лічыць Арцём Карнейчык.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **25.05** | **1.06** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 143 500 | **143 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | **29 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 800 | **41 800** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **15 500** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11 500 | **11 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 59 500 | **59 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 9 900 | **8 500** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 13 500 | **14 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 54 500 | **57 000** |
| Лімоны, 1 кг | 48 500 | **47 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | **25 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 39 900 | **38 000** |
| Нектарыны, 1 кг | 48 000 | **50 000** |
| Абрыкосы, 1 кг | 48 000 | **45 000** |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 29 000 | **22 500** |
| Агуркі, 1 кг | 15 900 | **7 900** |
| Перац, 1 кг | 74 900 | **56 000** |
| Радыска, пучок | 5 000 | **5 500** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 19 900 | **13 500** |
| Клубніцы, 1 кг | 60 000 | **65 000** |
| Чарэшні, 1 кг | 90 000 | **69 900** |
| Вінаград, 1 кг | 40 000 | **40 000** |
| Бананы, 1 кг | 26 900 | **24 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **12 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 32 900 | **32 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 12 900 | **15 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | **26.05** | **2.06** |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 703,00 | **19 877,00** |
| Еўра | 21 965,00 | **22 140,00** |
| Злоты | 4 973,01 | **5 024,38** |
| Расійскі рубель | 299,03 | **298,28** |
| Грыўня | 786,11 | **787,66** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 1.06** | | |
| Еўра | 21800/22150 | **21900/22150** |
| Долар ЗША | 19650/19850 | **19700/19920** |

## Гаспадарлівага вяскоўца падазраюць у серыі крадзяжоў

МЯДЗЕЛ

Апошні часам пачасціліся крадзяжы ў вёсках Будслаўскага сельсавета. Нехта залазіў у дамы і надворныя пабудовы і выносіў адтуль рэчы.

У здзяйсненні аднаго з крадзяжоў пачалі падазраваць 49-гадовага мясцовага жыхара. Пасля таго як падазрэнні пацвердзіліся, ён расказаў, што з 2014 года здзейсніў серыю крадзяжоў. Пераважна наведваў лецішчы ў вёсачках, у якіх засталося мала жыхароў.

– На яго ніхто не мог падумаць. Вясковец у акрузе лічыцца гаспадарлівым, раней не судзімы, – расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі.** – Ён прыхопліваў усё, што трапляла пад руку: ад пасцельнай бялізны да інструментаў, мотаблока. Нічога не прадаваў, усё захоўваў у пабудовах на сваім двары. Тлумачыў, што спатрэбіцца ў гаспадарцы, хаця шмат чаго такога было і сваё.

Цяпер устаноўлена 10 фактаў. Некаторыя пацярпелыя нават не звярталіся ў міліцыю: мабыць, лічылі, што маёмасць не вельмі дарагая. Цяпер ім вяртаюць скрадзенае. Мужчыну заключылі пад варту.

– У многіх выпадках маёмасць належным чынам не ахоўвалася: дзе зусім дзверы былі незачыненыя, дзе стаялі замкі, якія лёгка адкрыць. Хочацца звярнуцца да вяскоўцаў і гаспадароў лецішчаў, каб прымалі захады для захавання маёмасці, зачынялі дзверы на надзейныя замкі, – дадае Міхаіл Сакалдынскі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчан штрафуюць за мак

ВІЛЕЙКА

Летась на Вілейшчыне выявілі 26 асоб, якія незаконна вырошчвалі на прысядзібных участках мак. У дачыненні да іх складзеныя пратаколы. Санкцыі прадугледжваюць штраф да 20 базавых велічынь.

Для тых, хто з мэтай збыту вырошчвае расліны, якія ўтрымліваюць наркотык, прадугледжаная крымінальная адказнасць. Яны могуць пазбавіцца волі на тэрмін да трох год.

Для нашага рэгіёна характэрнае вырошчванне маку і канапель. Да наркатычных раслін адносяцца ўсе расліны роду мак (Papaver), за выключэннем дэкаратыўнага маку, бо ў ім не ўтрымліваюцца наркатычныя рэчывы.

Ад 1 чэрвеня да 15 верасня на Вілейшчыне праводзяць спецыяльную праграму "Мак". Яе мэта – недапушчэнне распаўсюджвання наркатычнай сыравіннай базы раслiннага паходжання.

**Юры ВЫСОЦКІ,**
**старшы оперупаўнаважаны групы наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі Вілейскага РАУС.**

## У маладога віляйчаніна знайшлі псіхатропнае рэчыва

ВІЛЕЙКА

Праваахоўнікам паступіла аператыўная інфармацыя аб дачыненні 19-гадовага жыхара Вілейкі да незаконнага абароту наркатычных сродкаў. Падчас праверкі інфармацыі, па адрасе пражывання віляйчаніна правялі агляд.

Па выніках экспертыз у двух знойдзеных папяровых скрутках выявілі сумесь высушаных часцінак рэчыва са слядамі тэрмічнага ўздзеяння і часцінак рэчыва расліннага паходжання. Агульная маса сумесяў – больш за 0,02 грама і 0,04 грама. Яны змяшчаюць асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва, якое не выкарыстоўваецца ў медыцынскіх мэтах.

– Віляйчанін растлумачыў, што прыкладна на працягу апошніх двух год ён спажывае псіхатропныя рэчывы – курыльныя сумесі. Набывае іх у Мінску з дапамогай закладак, – паведаміў старшы оперупаўнаважаны групы наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі Вілейскага РАУС **Юры Высоцкі**. – У ноч з 5 на 6 мая гэтага года спажываў курыльную сумесь. Астатнюю частку перамяшаў з тытунём і попелам. Падзяліў на дзве часткі, спакаваў у гэтыя скруткі.

Вілейскі райаддзел Следчага камітэта ў дачыненні да хлопца распачаў крымінальную справу. Яму можа пагражаць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін да пяці год або пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да пяці год.

**Аддзел інфармацыі.**



# Рабочы загінуў пад коламі смеццявоза

ВІЛЕЙКА

**Трагедыя адбылася каля 10 раніцы 26 мая ў вёсцы Карпавічы Хаценчыцкага сельсавета.**



Фота delfi.lt

Рабочы працаваў у вёсцы Карпавічы.

Кіроўца жыллёва-камунальнай гаспадаркі на смеццявозе МАЗ разам з рабочым збіралі смецце ў вёсцы.

– Як гэта звычайна бывае: машына едзе, рабочы ідзе за аўтамабілем. Спыняецца ля двара, дзе ёсць смецце. Рабочы збірае яго і грузіць у смеццявоз. Далей машына пераязджае ў чарговае месца. Пры пераездзе грузчык аказаўся пад коламі аўтамабіля, 36-гадовы мужчына памёр на месцы здарэння, – расказаў намеснік начальніка Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Аляксандр Путырскі.** Смеццявозам кіраваў 27-гадовы жыхар Вілейкі.

Узбудзілі крымінальную справу за парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Праводзяць неабходныя следчыя дзеянні, прызначылі экспертызы, дадае **Аляксандр Путырскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## На вадаёме у Валожыне загінула шмат рыбы

ВАЛОЖЫН

Супрацоўнікі Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету зафіксавалі факт гібелі рыбы на вадаёме, размешчаным у межах Валожына.

Інфармацыя пра інцыдэнт паступіла на тэлефон даверу Дзяржінспекцыі. Інспектары знайшлі больш за дзве сотні загінулай плоткі і некалькі акунёў. У ходзе замеру ўзроўню кіслароду ў вадзе ўстанавілі, што яго канцэнтрацыя адпавядае норме. Лабараторыя аналітычнага кантролю ўзяла пробы вады для правядзення іншых аналізаў.

Як мяркуецца, прычынай гібелі рыбы мог з'явіцца скід забруджвальных рэчываў з тэрыторыі мясцовага малочнага камбіната.

Прычыненая навакольнаму асяроддзю шкода склала 143 мільёны рублёў. Матэрыялы дзяржінспектары перадалі ў Валожынскі РАУС для разгляду пытання аб узбуджэнні крымінальнай справы.

**Паводле Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## У Вілейцы не далі скрасці туі

ВІЛЕЙКА

Каля 11 гадзін вечара 26 мая спынілі спробу крадзяжу туй ля стэлы на ўездзе ў Вілейку з боку Маладзечна.

Побач знаходзіцца прыгарадная лясніцтва доследнага лягсаса. Вартаўнік убачыў, што нехта корпаецца ля кветкавай кампазіцыі ля стэлы. Пачаў крычаць: "Стойце, што вы робіце!" і накіраваўся туды.

Жанчына збегла. Але засталася машына, у якую збіралася загрузіць здабычу – 10 невялікіх туй былі прыгатаваны для вывазкі.

Вартаўнік выклікаў міліцыю. Па машыне выйшлі на падазроную. Ёй аказалася пенсіянерка з Вілейкі.

Узбудзілі крымінальную справу па факце замаху на крадзеж, паведаміў намеснік начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Путырскі.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Два пажары амаль адначасова адбыліся на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

У суботу, 28 мая, пасля 16 гадзін з невялікім інтэрвалам вілейскім выратавальнікам паведамілі пра два пажары.

У вёсцы Малышкі Людвіноўскага сельсавета загарэўся хлеў. Па прыбыцці выратавальнікаў ён гарэў адкрытым полымем. У выніку хлеў з маёмасцю знішчаны цалкам.

Папярэдняя прычына пажару – дзіцячае свавольства з агнём. Матэрыялы праверкі перададзеныя ў РАУС.

У вёсцы Каловічы ля Вілейкі гарэла надворная пабудова: лазня і хлеў пад адным дахам. Агонь знішчыў дах на ўсёй плошчы.

Мяркуемая прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні. Пра гэта паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Міліцыя рупіцца, каб пасяўная прайшла гладка

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад сакавіка супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС робяць усё для таго, каб сёлетняя пасяўная кампанія прайшла паспяхова.**

Яны імкнуцца захаваць пасяўны фонд, ядахімікаты, мінеральныя ўгнаенні, сельскагаспадарчую тэхніку і іншую маёмасць аб'ектаў аграпрамысловага комплексу. Міліцыя спрабуе знайсці прычыны, па якіх адбываюцца крадзяжы, і зменшыць іх колькасць.

Як паказвае практыка, менавіта ў час, калі ідуць вясенне-палявыя работы, расце злачыннасць.

Сёлета зарэгістравана 259 крадзяжоў. Гэта на 13 больш, чым летась.

191 чалавека падазраюць у злачынствах.

Зафіксаваныя сёлета чатыры дробныя крадзяжы ў сельскагаспадарчых арганізацыях.

Каля 22:40 17 сакавіка мужчына скраў з малочнатаварнай фермы "Готкавічы" 150 кілаграмаў мукі.

Каля 22:00 19 сакавіка іншы мужчына скраў з малочнатаварнай фермы "Гарнякі" камбікорм і вітаміны.

Абодва правапарушальнікі заплацілі штраф 2 100 000 рублёў.

Маладзечанскі РАУС нагадвае, што пасля здзяйснення крадзяжу надыходзіць адказнасць. Гэта можа быць як штраф ці адміністрацыйны арышт, так і грамадскія працы, арышт, абмежаванне ці пазбаўленне волі.

Калі вам стала вядомая інфармацыя аб здзяйсненні злачынства альбо вы сталі сведкам здзяйснення супрацьпраўнага дзеяння, Маладзечанскі РАУС просіць вас паведаміць пра гэта ў міліцыю па нумарах: **102, (8-0176) 77-16-56** (кругласутачна), **(8-0176) 77-14-88, (8-0176) 77-44-11** (у будні ад 9:00 да 18:00).

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**



# Астравеччына літаратурная, або Нашчадкі... Гіёма Апалінэра

Вось здаецца: дзе французскі паэт, дзеяч еўрапейскага авангарда пачатку 20 стагоддзя **Гіём Апалінэр**, а дзе Астравец?.. Але, але…

Але ў 19 стагоддзі ўладальнікамі астравецкага маёнтка былі **Кастравіцкія** і **Жылінскія**, з якіх якраз і паходзіў згаданы французскі паэт. Дзед Апалінэра эміграваў у Італію ў другой палове 19 стагоддзя, таму паэт нарадзіўся ў Рыме ў 1880 годзе.

Але пра сваю прыналежнасць да роду Кастравіцкіх не забываў, пра што сведчыць яго поўнае імя – Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінарый Вонж-Кастравіцкі.

Беларускі празаік **Карусь Каганец**, які таксама тварыў у канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя, быў стрыечным дзядзькам француза.

• Выдавецкая справа развівалася ў Астравецкім раёне яшчэ ў канцы 16 стагоддзя. Выдавец **Ян Абрамовіч** (? – 1602) валодаў маёнткам Варняны. Ён стварыў працу, якая б для некаторых была цікавай і сёння, бо гэта своеасаблівы дапаможнік для бізнесоўцаў – "Погляды ліцвіна на набыццё таннага збожжа і продажу яго даражэй".

• У вёсцы Міхалішкі нарадзіўся **Цыпрыян Бжастоўскі** (1612–1688), дыпламат і мемуарыст.

• Натхняла людзей на творчасць Астравеччына і ў канцы 19 – першай палове 20 стагоддзя. Крытык і публіцыст **Альгерд Бульба** з вёскі Антонішкі пісаў карэспандэнцыю ў газету "Наша ніва".

У вёсцы Вартачы нарадзіўся яўрэйскі пісьменнік **Майсей Тайц** (1882-1935). Вершы і апавяданні ён пісаў на ідыш і шмат выдаваўся ў Маскве.

Вёска Лакцяны з'явілася радзімай **Янкі Быліны** (сапр. Іван Семашкевіч) (1883-1956) – паэта, драматурга, перакладчыка рэлігійнай літаратуры.

• Асобна хочацца сказаць пра ўраджэнцаў і жыхароў Астравеччыны – братоў Стаповічаў. Старэйшы, Канстанцін, (1890-1926) з вёскі Барані вядомы як літаратар **Казімір Сваяк**. Збіраў і вывучаў мясцовы фальклор, актыўна друкаваўся, пісаў вершы, апавяданні, эсэ, гумарэскі, публіцыстычныя артыкулы, драматычныя творы, настаўнічаў на Астравеччыне. Да ўсяго быў каталіцкім святаром і вёў набажэнствы на беларускай мове. Сёння на хаце, дзе нарадзіўся Казімір Сваяк, усталяваная мемарыяльная дошка.

Малодшы брат, **Альбін Стаповіч**, (1894-1934) праявіў сябе ў публіцыстыцы і літаратуразнаўстве, а таксама як прафесійны музыкант. Скончыўшы кансерваторыю ў Вільні, кіраваў беларускім хорам пры віленскім касцёле святога Мікалая.

• **Кац Менке** (1906-1991) – яўрэйскі і амерыканскі паэт, нарадзіўся і жыў у дзяцінстве ў Астравецкім раёне. У 1920 годзе выехаў у ЗША. Ад пачатку 1920-х гадоў друкаваўся ў яўрэйскіх газетах ЗША.

• У вёсцы Слабодка нарадзіўся і пахаваны польскі і беларускі пісьменнік **Уладзіслаў Струміла** (1949 – 1969).

• Годныя традыцыі, закладзеныя папярэднікамі, у другой палове 20 стагоддзя працягнулі **Рычард Бялячыц**, нарадзіўся ў 1953 годзе у вёсцы Стаўбуры, вядомы як журналіст і паэт; **Ян Цехановіч**, нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Варняны, – польскі эсэіст, публіцыст, аўтар шэрагу навуковых прац.

• У вёсцы Расолы ў 1932 годзе нарадзіўся прафесар, доктар філалагічных навук, крытык, празаік, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа **Адам Мальдзіс**, які не раз станавіўся героем публікацый "РГ".

• У розныя часы на Астравеччыне бывалі беларускі пісьменнік **Уладзімір Караткевіч**, які прысвяціў гэтым мясцінам некаторыя свае творы, польскія літаратары нобелеўскі лаўрэат **Генрык Сянкевіч** і **Мечыслаў Яцкевіч**.

• Паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Мікола Мятліцкі** мае лецішча на Астравеччыне, і гэты куток натхняе яго на напісанне новых вершаў.

• Сёння ў Астраўцы дзейнічае літаратурнае аб'яднанне "Астравецкай зямлі галасы", створанае журналісткай, празаікам, галоўным рэдактарам газеты "Астравецкая праўда", членам Саюза пісьменнікаў Беларусі **Нінай Рыбік**. Цяпер аб'яднаннем кіруе **Людміла Кухарэвіч**, а актыўны ўдзел у яго дзейнасці прымаюць **Марыя Пешка**, **Святлана Бацюлева**, **Капіталіна Пятроўская**, **Таццяна Граблеўская**, **Аляксандр Марозаў**, **Таццяна Радкевіч** і іншыя.

• У 2008 годзе выйшаў калектыўны зборнік паэзіі і прозы літаратараў Астравеччыны пад назвай "Астравецкай зямлі галасы" (укладанне Ніны Рыбік, прадмова Адама Мальдзіса).

• У Астравецкім раёне сёння працуюць 19 бібліятэк, і чытачоў у іх на 1 студзеня 2016 года зарэгістравана 13999.

### Станіслаў Валодзька



Станіслаў Віктаравіч Валодзька нарадзіўся 11 лістапада 1956 года ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна ў сям'і селяніна-аднаасобніка.

У 1974 годзе скончыў Жукойніцкую школу. Пасля была служба ў войску і праца на чыгунцы. У 1987 годзе скончыў філфак БДУ. Друкуецца ў беларускім і латвійскім друку. Творы публікаваліся ў Англіі, Польшчы, Расіі і на Украіне, гучалі на радыё і ТБ. Аўтар кніг паэзіі "У вачах Айчыны", "Обращение к сердцу", "Памяці гаючая трава", кніг для дзяцей "Калыханкі і пацешкі для Антошкі і Алежкі", "Калі ласка, казка", "Бусинки", "Чудесный котик", "Сокровища". Вершы друкаваліся ў шэрагу калектыўных зборнікаў, у кнігах серыі ЖЗЛБ, латвійскіх падручніках "Русское слово" і "Русский язык". На вершы напісаны шэраг песень кампазітарамі Латвіі і Беларусі.

Стаяў ля вытокаў беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым". Унёс значную лепту ў стварэнне Цэнтра беларускай культуры ў Даўгаўпілсе.

Узнагароджаны медалём Францішка Скарыны, нагрудным знакам Мінкультуры "За ўклад у развіццё культуры Беларусі", Ганаровай граматай Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце Міністраў і памятным медалём да 100-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Шолахава "За гуманізм і ўклад у славянскую культуру".

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Рускай пісьменніцкай арганізацыі Латвіі, Асацыяцыі дзіцячых пісьменнікаў Латвіі і Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў.

Жыве ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе. Жанаты, мае сыноў Алега і Антона.

### Часлава Сідарэвіч



Часлава Віктараўна Сідарэвіч (Гражуль-Гульбінская да замужжа) нарадзілася і вырасла ў вёсцы Альхоўка Астравецкага раёна ў вялікай дружнай сям'і. Скончыла Альхоўскую сярэднюю школу.

Паступіла, на той час, у Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага на факультэт "Педагогіка і методыка пачатковага навучання". Пасля заканчэння 20 гадоў працавала настаўніцай пачатковых класаў у роднай школе.

Цяпер працуе намесніцай загадчыка ў альхоўскім дзіцячым садзе. Замужам. Выхоўвае траіх дзяцей. Любіць падарожнічаць. Падтрымлівае здаровы лад жыцця.

**Землячцы**

М - і

Заззялі ласкай неба вочы,
Што часта хмурымі былі,
Як на чужыне нас аднойчы
Зямныя лініі звялі.

І зараз разам мы парою
Глядзім, як шле радзіма нам
Лісты-аблокі,
Дзе з табою
Туліла нас рака адна.

Вялікі лес адзін і той жа
Падносіў нам свае дары.
Ў адным і тым жа храме Божым
Нас прычашчаў святар стары.

Вунь зорка ў тым баку маячыць,
Акенцам вабіць нас здаля.
– Мне Бог паслаў цябе, землячка!
– З табой мне свет мілей, зямляк!

Спяшым паклон аддаць з любоўю,
Што ўзгадавала нас, зямлі.
І ўдзячны краю, дзе з табою
Жыцця дарогі нас звялі.

**Ігнасеў сад**

З маленства помню сад Ігнасеў
На ўскрайку вёскі,
Што застаўся
Як напамінак аб тым часе,
Як раскулачвалі Ігнася.

Кулак, – не фіга быў,
За тое
Ў Сібір вывозілі сям'ёю.
І гэты сад заломваў рукі
І лісцем гнаўся ўслед за ёю...

Асірацелы сад Ігнасеў
Год колькі ўдалеч углядаўся,
Жагнаўся часам,
Ды нікога
З іх так ён і не дачакаўся...

Любіў гуляць я ў гэтым садзе.
Стары ён мне насустрач гнуўся,
Па галаве малога гладзіў,
Як я да яблыкаў цягнуўся...

Я і нядаўна быў зайшоўся:
– Ну як ты жыў-здароў? – спытаўся.
Зноў пачастунак мне знайшоўся,
Ды штосьці яблык даўкім здаўся...

**Родная мова**

З родным краем рад сустрэчы,
Наглядзецца не магу,
Як лугі дзяцінства рэчку
Берагамі берагуць.

І звініць, як гэта рэчка,
Мова матчына, журчыць.
Так і нам – удзячна, вечна
Мову продкаў берагчы.

Гэты скарб вялікі самы, –
Не бывае даражэй.
Бо заўжды і нас таксама
Наша мова беражэ…

## літПАРАДА
*ад Станіслава Валодзькі*

Якія парады можна даць чалавеку, які ўзяўся за пяро і марыць стаць паэтам? Галоўнае, што нарадзілася гэта мара, вялікая мара. Яна ўзмацняе любоў да бліжніх, пры роднай прыроды, Бацькаўшчыны, яна абуджае любоў да паэтычнага слова і пабуджае да напружанай працы над сабой і над словам…

***

У каханні хачу прызнацца,
Не гаворачы лішніх слоў.
Спадзяюся, не будзеш смяяцца,
Скарыстаю я некалькі моў.

Мовай позіркаў і дакрананняў,
Мовай подыхаў і хады
Абмяжую я слоў апантанасць,
Ў рот узяўшы глыток вады.

Цішынёй навакольнай пацверджу
Сваю сціпласць і неспакой,
А гарэзлівым ветрыкам свежым
Я запэўню: "Хачу быць з табой!"

**Сэнс жыцця**

Сэнс жыцця для жанчыны –
у дзецях,
Для мужчыны – ў каханай сваёй,
А для моладзі – ў марах,
паверце,
Каб узняцца вышэй над зямлёй.
Ў перамогах чарговых
спартсмены
Бачаць новыя мэты жыцця.
А вандроўнік шукае, напэўна,
Шлях да новых краін адкрыцця.
Але хтосьці жыве бессэнсоўна,
Перакрэслiўшы тым увесь свет.
Пасля іх на зямлі мы ці знойдзем
Хоць адзіны карысны след.
Сэнс жыцця для жанчыны –
у дзецях?
Для дзяцей – у вясёлай гульні?..
Я не ведаю, бо на свеце
Вельмі розныя, людзі, мы.

**Прызнанні**

– Ты для мяне дар божы! А я для цябе?
– Не меншы.Твае зялёныя вочы я цалаваў першы.
– Ты для мяне – бляск уночы. А я для цябе?
– Не меншы. Я побач з табою крочу і ведаю: не слабейшы.
– Ты для мяне – крыніца. Ведай і будзь шчырым.
– Шчасце з табой мне сніцца. Толькі з табой шчаслівы!

# Міс Маладзечна 2016: Сябрую пераважна з хлопцамі, яны не здрадзяць

МАЛАДЗЕЧНА

**Адбылося! Мы нарэшце даведаліся імя самай прыгожай і смелай маладзечанкі. Сёлета ёй стала 16-гадовая вучаніца гімназіі №7 Лізавета Данілава.**



“Міс Маладзечна 2016” Лізавета Данілава падчас выхаду ў купальніках на сцэне Палаца культуры ў Маладзечне. Фота Настассі РОЎДЫ.

Акрамя тытула і кароны, Ліза атрымала ў падарунак уік-энд у Парыжы.

На пытанне, хто складзе кампанію галоўнай прыгажуні горада, яна сціпла адказала:

– Мама.

Пакуль збіраюцца чамаданы, Ліза адпачывае ад абцасаў і бясконцых двухмесячных трэніровак і расказвае, як ёй собіла трапіць у гэты конкурс:

– З 12-гадовага ўзросту я выступала на конкурсах “Міс Маладзечна” у танцавальных нумарах, якімі разбаўлялі выхады міс. Тады і рашыла, што як толькі мне споўніцца 16 гадоў, абавязкова паспрабую ўдзельнічаць сама. І вось, атрымалася.

Ліза прызнаецца, што ніколі не марыла быць мадэллю, яе жыццё – гэта танцы.

– Мяне мама адвяла на танцы з сямі год. І калі раптам я не хацела займацца, мама казала: “Раз пачала, цярпі”. Таму і ў конкурсе мне такі мамін наказ дапамог перамагчы.

За два месяцы штодзённых рэпетыцый дзяўчаты-ўдзельніцы сталі камандай, а вось пасябраваць так і не паспелі.

– Мы розныя па ўзросце, у нас мала агульнага. Да таго ж, за некалькі дзён да конкурсу мы ўсе перасварыліся. Слабыя дзявочыя нервы не вытрымалі такой напругі. Таму я і сябрую пераважна з хлопцамі. Яны не здрадзяць.

А рыхтавацца да конкурсу Лізавеце дапамагалі нявеста брата.

– Яна прадумала ўсё: прычоску, макіяж, убор, туфлі. Я потым брату сказала, што яму з ёй пашанцавала.

Па-за школай Ліза – удзельніца групы падтрымкі хакейнай каманды “Дынама-Маладзечна”. Расказвае, што калі ішла на кастынг, ні на што не спадзявалася, бо дзяўчат прымалі толькі з 16-ці гадоў, а Лізе на той момант было 15.

– Папрасілі сесці на шпагат, вывучыць танцавальны нумар. Але калі я падняла нагу, каб прадэманстраваць расцяжку, мяне запрасілі адразу ў асноўны састаў.

На гэта лета ў планах у Лізы адпачыць і вызначыцца з тым, куды ёй паступаць пасля заканчэння школы.

– Ведаю толькі тое, што ні ў якую ўстанову, звязаную з харэаграфіяй, не пайду. Магчыма, гэта будзе нешта, звязанае з замежнымі мовамі.

Ці будзе Ліза яшчэ ўдзельнічаць у конкурсах прыгажосці, адказала:

– Яны ж усе з 18 гадоў. Трэба пачакаць яшчэ два гады, а потым, вядома, паспрабую прымераць карону “Міс Беларусь”.

### Ліза – таму што тата забыўся, што мяне хацелі назваць Алінай

Конкурс конкурсам, але хочацца даведацца, чым захапляецца Міс Маладзечна, што любіць, а што не.

Ліза нарадзілася ў лістападзе, але прызнаецца, што чакаць свой дзень нараджэння пачынае ўжо ў жніўні. Гэта яе любімае свята.

У Лізы з дзяцінства не было ніякіх мянушак. Заўсёды называлі па імю. Толькі цяпер у сваёй кампаніі, дзе ёсць яшчэ адна дзяўчынка з такім імем, Лізу сталі называць Міс Маладзечна.

А Лізай яна стала праз няпамятлівасць уласнага таты.

– Яны з мамай выбіралі паміж імёнамі Ліза і Аліна. І калі тата павінны быў запісаць ужо пад імем Аліна, ён наўпрост пра яго забыўся. Вярцелася Ліза ў галаве, так і запісаў.

Пасля конкурсу прыхільнікаў у Лізы дадалося. Сталі пазнаваць на вуліцы.

– Як я рэагую? Адказваю: “Так, гэта я”. Вядома, прыемная ўвага. А вось сябра ў мяне пакуль няма. У актыўным пошуку, як кажуць.

Пры гэтым Ліза дакладна ведае, якім мусіць быць хлопец яе мары.

Ён павінны клапаціцца пра дзяўчыну, быць выхаваным, не нахабным. Вядома, займацца спортам.

– Ну, і прыгожым, каб у прыгажосці не саступаў мне.

Шоу “Міс Маладзечна” сабрала цалкам Палац культуры, доўжылася тры гадзіны і пакінула пасля сябе шмат пазітыўных эмоцый.

14 дзяўчат падчас конкурсу чакалі тры выхады ў трох уборах: вобраз дзелавой лэдзі, выхад у купальніках і выхад у вячэрніх суконках.

Чацверты конкурс уяўляў сабой творчыя нумары – вельмі цудоўная знаходка арганізатараў **Святланы Адамушкі і Ірыны Сарокінай**. Яны далі магчымасць удосталь наглядзецца на прыгожых, яркіх, таленавітых прэтэндэнтак на галоўны тытул года па прыгажосці.

Дзяўчаты з запалам танцавалі барыню, салодка ўваходзілі ў вобраз Мэрылін Манро, кружылі ў магутным патоку гукаў скрыпкі і віяланчэлі і проста прымушалі мужчынскія сэрцы біцца часцей, калі танцавалі сучасныя танцы. Без супермоднага, дзёрскага, смелага тверку не абышлося. І гэта здорава!

Праўда, трэба ўнесці невялічкую лыжачку дзёгцю. Нумары паміж выступленнямі прыгажунь, на наш погляд, не зусім упісваліся ў фармат конкурсу. Прыгадалася фраза з анімацыі “Ангры бёрдс”: “Адкуль гэтыя старпёрскія песні?” Магчыма, так было спецыяльна задумана, каб прыгажуні выглядалі яшчэ больш дарагімі дыяментамі. Але ўсё ж хацелася б бачыць і тут больш драйву, маладосці і задору.

Заслугоўвае кампліментаў і вядучы цырымоніі – **Арцеміс Ахпаш**. Заўсёды прыемна, калі напругу і нерваванне канкурсантак нехта можа разрадзіць жартам і ўсмешкай.

Сам Арцём прызнаўся нам за кулісамі, што сваю фаварытку сярод прыгажунь выбраў яшчэ ў 2011 годзе, калі ажаніўся.

– Ну, што конкурс? Купальнікі розныя, дзяўчаты тыя ж, – і тут пажартаваў вядучы.

“Міс Папулярнасць” па версіі “Рэгіянальнай газеты” стала сама “Міс Маладзечна 2016” Лізавета Данілава. У падарунак Ліза атрымала прыз ад манікюрна-педыкюрнага кабінета “Ідэал” – любы від манікюру і макіяжу.

**Дар’я Красікава**, самая яркая брунетка конкурсу, стала “Міс Талент”.

“Віцэ-міс” – **Юлія Абцэвіч**.

**Караліна Лобач** – “Міс Грацыя”.

**Юлія Шалкоўская** – “Міс Фота”.

**Аляксандра Аляксюк** – “Міс Інтэрнэт-сімпатыя” па версіі чытачоў партала kraj.by.

Прыз глядацкіх сімпатый стала **Карына Арловіч**.

Юлію Шалкоўскую запрасіў да сябе дырэктар беларускага мадэльнага агенцтва **Сяргей Нагорны**. Пасля конкурсу ён прызнаўся, што заўважыў тут пару дзяўчат, якіх ён бачыць у мадэльным бізнесе.

**– Чаму ж міс стала Лізавета Данілава? Што ёсць у ёй такога, чаго няма ў іншых дзяўчат?**

– Ліза – гэта невычэрпны паток энергіі. Вельмі артыстычная і грацыёзная. Ад пачатку было відаць, што Ліза ведае, што пераможа, і гэта заўважыла журы.

Наталля ТУР.

